# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 3 (986) ГОД XX 19 СТУДЗЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


Варшава, твой тут камень кожны,
як наш народ непераможны,
бо хоць ты з бітвы выйшла ў ранах,
а ўзняла Прагу і Муранаў;
бо ты зараз па сотні гмахаў
узводзіш горача, з размахам;
і вось расце, расце сталіца,
было за што заўзята біцца,
каб так узняць з руін Варшаву —
а рыфма лезе зноў: з крывавых...
Не!.. Не лілася кроў намарна
і польскай і савецкай армій
за нашы землі, край наш светлы.
Сягоння — Польшча, заўтра — свет наш.

**Уладзіслаў Бранеўскі**







*Лазенкоўская траса дасканала ўпісалася ў сучасную архітэктуру Варшавы.*




В Варшаве 30 год! 17.I.1945 г. спецыяльны загад Вярхоўнага камандавання Чырвонай Арміі вясціў: войскі I Беларускага фронту і I Польскай арміі ўзялі Варшаву.

Следам за радасцю ішоў і сум. Сталіца Польшчы — вымершы горад. Плошчы Трох Крыжоў не пазнаць. Новы Свят несамавіта знішчаны. Гарыць Палац Сташыца. Помнік Каперніка паваленьі. Немагчыма пазнаць ні Хмельнай, ні Свентакшыскай, ні Сенаторскай. Ерусалімскія Алеі страшэнна разбураны. Маршалкоўская — руіны. Людзей няма. Выратаваліся толькі жыхары Акэнця. Нічога не памілавала германская ашалеласць.

Першыя карэспандэнцыі з вольнай Варшавы жахлівыя. Але Варшава не скарылася. І, хоць за плячыма было VII стагоддзяў, пачала весці лік сваім дням ад нуля. Уставаць на ногі памагаў Варшаве ўвесь народ. Брацкую руку падалі народы Савецкага Саюза. Ужо 28 студзеня 1945 г. пачалі прыходзіць цягнікі з дарамі. Украіна ахвяравала 15 тысяч тон жыта, 150 тон алею, 100 тон цукру, 3 тоны фруктаў. Беларусь даставіла 10 тысяч тон збожжа. Літва 5 тысяч тон збожжа. А ім таксама ў той час было нялёгка.

За жыццё Варшавы плячо ў плячо з палякамі змагаліся савецкія людзі. Першы электрычны ток правабярэжнай частцы горада дала савецкая чыгуначная ваенная электрастанцыя. Савецкія спецыялісты дапамагалі таксама адбудоўваць электрастанцыю на Павіслі. Савецкія сапёры неўзабаве перакінулі цераз Віслу драўляны мост. Першыя тралейбусы ў Варшаву прыйшлі таксама з СССР. За імі — фінскія домікі. Потым быў Жэрань, Палац культуры і навукі, Гута. Цяпер бадай няма ў Варшаве прадпрыемства, якое б не мела сувязей у Савецкім Саюзе.

У мінулым годзе па запрашэнню арганізатараў святкавання „Трыбуны Люду“ меў я магчымасць бліжэй пазнаёміцца з Варшавай. Між іншым, у групе журналістаў быў я ў Гуце. Гэты, найбольш сучасны ў Польшчы, металургічны камбінат праектавалі маскоўскія спецыялісты. З СССР камбінат атрымаў шмат абсталявання, савецкія спецыялісты памагалі пускаць яго ў дзеянне. Сёння 10-тысячны калектыў камбіната выпускае ў год 700 тысяч тон высакаякаснай сталі.

За 30 год вярнулі мы Варшаве не толькі жыццё, вырасла яна цудоўна. Жыве ў ёй звыш 1.400 тысяч жыхароў. У ёй 150 жыллёвых раёнаў, пабудаваных пасля вайны, 365 тысяч кватэраў са звыш 1.200 тысячамі ізбаў. З'яўляецца яна другім (пасля Шлёнска) прамысловым цэнтрам краіны. Найбольшым культурным і навуковым цэнтрам. Як у прамысловасці, так і ў навуцы сталіца групуе цяпер спецыялістаў з найвышэйшымі ў краіне кваліфікацыямі. Выбар і прафіляванне прамысловасці і навукі пераўтварае Варшаву ў палігон сучаснасці, які павінен мець вялікае ўздзеянне на мадэрнізацыю ўсёй нацыя-

(Працяг на стар. 4)

## ТРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

**Орля — гміна ўзорная ● Карэспандэнт года ● Дарога (Барскага) да сэрца азёр ● Аб „Навуковым зборніку“ — дрэнна і добра ● Размовы па шчырасці ● Весткі з БССР, Новага Ляўкова, Грэбянёў, Боцькаў, Храбалоў, Паўднёвага Вострава, Тафілаўцаў, Давідавічаў, Чаромхі, Чыжоў і інш. ● Песня „Co ja zrobię, że cię lubię“.**




Калі ў Рыгора Майсака — солтыса вёскі Залукі, што ў Беластоцкім павеце, я запытаў: „Хто ў вас тут добры гаспадар?“, ён, не вагаючыся, усклікнуў: „Андрэй Завадскі! Ён у нас перадавы гаспадар, у яго і на полі аж люба глянуць, і гадоўля якая!..“

І вось стаю я на панадворку каля колішняй мураванкі: унізе акуратная клуня з рознымі паветкамі, а за старым драўляным хлявушком ўздымаюцца сцены будучай аборы. На панадворак уязджае трактар з прычэпам, даверху нагружаным мяшкамі са штучнымі ўгнаеннямі. Сціхае трактарны рухавік, ад руля саскоквае звітны ружовашчокі хлапец год дваццаці.

— А дзе гаспадар гэтай хаты? — пытаюся.

— А я і гаспадар. Андрэй Завадскі, — адрэкамендоўваецца хлопец, весела ўсміхаючыся.

Ужо ўвайшоўшы ў дом, я даведваюся, што Андрэй Завадскі паходзіць з Беластока. Там жывуць ва ўласным доміку ў Дайлідах яго бацькі, там выхаваліся ён і тры яго сястры. Цяпер старэйшая, Марыя, ужо замужняя, пасля заканчэння Беластоцкай медыцынскай акадэміі працуе ў ёй навуковым работнікам, сярэдняя, Ірына, таксама замужняя, працуе і адначасова вучыцца на IV курсе завочнага аддзялення юрыдычнага факультэта Варшаўскага універсітэта, а малодшая, Галіна, з'яўляецца студэнткай першага курса Сельскагаспадарчай акадэміі ў Ольштыне. Таксама і Андрэй пасля заканчэння пачатковай школы паступіў у электрычны тэхнікум і, здавалася б, сваю будучыню звяжа з тэхнікай і горадам. Але...

У 1965 годзе захварэла іх бабулька, што самотна жыла ў Залуках і вяла

(Працяг на стар. 4)



## У ХАРОШЧЫ БУДЗЕ БАТАНІЧНЫ САД

У Харошчы ўзнікне адзін з найбольшых і найпрыгажэйшых батанічных садоў у Польшчы. Як вядома, тут асталася па сённяшнія часы нерухомая маёмасць Браніцкіх — прыгожы, рэстаўрыраваны за апошні час, стыльны палац. Зберагліся таксама шматлікія дрэвы ў былым парку, штучныя каналы і ставы. Усяму гэтаму прыгажосці дадае яшчэ рака Нараў.

Спачатку будзе добраўпарадкаваны пляц вакол палаца. Патрабуюць тут аднаўлення і перарабкі перш за ўсё каналы. Затым будуць пасаджаны розныя гатункі дрэў, кустарнікаў і рэдкіх у нашай краіне раслін. Варта дадаць, што клімат нашага рэгіёна аказаўся ласкавым і не шкодзіць вегетацыі рэдкіх у нас экземпляраў сусветнай флоры. (ця)



*Карціна народнага мастака БССР Міхася Савіцкага „Хлеб“.*

*Фота В. Казлова.*

## На ніве БГКТ

Склікаsucc

Склікаская пленарным пасяджэннем Галоўнага праўлення БГКТ, што адбывалася 22 снежня 1974 г., камісія прапаноў у складзе Валянціны Філіпюк, Уладзіміра Юзвюка і Віктара Шведа на заканчэнне працы пленума прадставіла яму наступныя пастановы:

Пленарнае пасяджэнне дае высокую ацэнку ўдзелу Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў адзначэнні 30-годдзя Польскай Народнай Рэспублікі і складае шчырую падзяку ўсім членам БГКТ за іх вялікі асабісты ўклад, унесены для агульнага дабра ў юбілейным годзе нашай Радзімы.

Пленум высока ацэньвае працу БГКТ на працягу апошніх двух год і прымае „Інфармацыю аб выкананні пастановаў VII з'езду БГКТ“, прадстаўленую старшынёй М. Самоцікам, і адобрывае яе.

Адначасова прымае як абавязваючыя ўсю нашу арганізацыю:

а) запрапанаваныя ў „Інфармацыі“ наступныя напрамкі дзейнасці:

1. У штодзённай дзейнасці нашай арганізацыі няспынна клапаціцца пра далейшае развіццё краіны і нашага рэгіёна, фарміраваць у членаў таварыства і яго прыхільнікаў глыбокае пачуццё абавязку добрасумленнай прафесіянальнай і актыўнай грамадска-палітычнай працы.

## Пастановы пленума ГП БГКТ

2. У сувязі з праведзенай у 1973/74 гадах актуалізацыяй стану нашай арганізацыі і выяўленым пры гэтым змяншэнні колькасці членаў БГКТ узмоцніць працу над пашырэннем існуючых і стварэннем новых гурткоў.

3. Няспынна развіваць самадзейны мастацкі рух, удасканальваць формы культурнай дзейнасці і шукаць новыя, больш прыцягваючыя, пры няспыннай інструктарскай і матэрыяльнай дапамозе калектывам.

4. У сувязі са значным змяншэннем колькасці моладзі, што вывучае беларускую мову, неабходна павялічыць колькасць сустрэч насельніцтва з літаратарамі, журналістамі і актывам БГКТ; наладзіць моцную сувязь са школамі і бацькоўскімі камітэтамі; павялічыць падпіску „Нівы“ — усімі гэтымі сродкамі глыбей уздзейнічаць на асяроддзе ў напрамку пашырэння свядомасці аб патрэбе вывучаць родную мову.

5. Зрабіць захады ў адпаведных дзяржаўных установах, каб штогод некалькі асоб сярод здольных у мастацтве выпускнікоў Бельскага і Гайнаўскага агульнаадукацыйных ліцэяў з беларускай мовай навучання, а таксама іншых сярэдніх школ Беласточчыны, накіроўваць у вышэйшыя мастацкія школы ў БССР, няспынна ўтрымліваць сувязь з імі і заахвоціць да працы ў рэгіёне дзейнасці таварыства.

6. Пастарацца атрымаць адпаведныя фінансавыя сродкі і паскорыць перадачу ў друк падрыхтаваных ужо кніг і ў далейшым падрыхтоўваць новыя выданні з рэпертуарам для самадзейнага мастацкага руху, па фальклору і з літаратурнымі творамі.

7. Скласці план, які ахопіць тэмы і мясцовасці, па правядзенню лекцый, гутарак і аўтарскіх сустрэчаў.

б) Справы, унесеныя ў ходзе дыскусіі на пленуме:

1. Абавязаць Прэзідыум ГП БГКТ грунтоўна разгледзець справу Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы, звярнуцца да адпаведных дзяржаўных устаноў з просьбай заснаваць Беларускі этнаграфічны музей як філіял Беластоцкага акруговага музея.

2. Прасіць аддзел унутраных спраў Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку, каб прасачыў выкананне адміністрацыйнымі органамі і іншымі ўстановамі Беласточчыны „Пастановы Прэзідыума ВРН у Беластоку ад 29 снежня 1966 г. у справе дапамогі нацыянальным меншасцям“.

3. Абавязаць Прэзідыум ГП БГКТ выступіць з просьбай да Міністэрства вышэйшага школьніцтва, навукі і тэхнікі, каб прыём на першыя курсы стацыянарнага і завочнага аддзяленняў кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта праводзіўся кожны год.

4. Узяць пад увагу ў далейшай працы іншыя прапановы і заўвагі, якія былі выказаны ў час працы пленума.

У галасаванні пленум аднагалосна прыняў пастановы.




## БЕЗ МОВЫ НЯМА КУЛЬТУРЫ

У васемнаццатым томе штоквартальнага часопіса „Культура і грамадства“ змешчана публікацыя Зыгмунта Камароўскага „Разважанні аб шматкультурнасці“.

„Праблема шматкультурнасці з'яўляецца праблемай суіснавання культур“, — заўважае Камароўскі і тлумачыць, што без вырашэння таго далейшае развіццё чалавецтва будзе немагчымым. Прытым шматкультурнасці нельга атоесамліваць са з'явай узаемных уплываў або асіміляцыі, якая ніколі не стварала новай культуры, заўсёды заканчвалася перамогай адной з іх. мацнейшай, — што, быццам кола, ўсяго толькі афарбоўвалася „раз'еханым“...

Без мовы няма культуры — без літаратуры няма нацыі. Камароўскі падказвае, што на тэрыторыях нацыянальна змешаных — а будзе іх штораз больш, м. ін. па вытворчых прычынах — павінен абавязваць прынцып шматмоўнасці. „Цэнім тых, хто нас цэніць“, — піша Камароўскі, гаворачы аб грамадска шкоднай з'яве дамінаваных і дамінуючых культур ды моваў ва ўмовах шматнацыянальных раёнаў. Прыкмячае ён знамянальнае: паняцце нацыяналізму рэдка прымяняецца ў адносінах да вялікіх народаў.

У сувязі з існаваннем шматнацыянальных дзяржаўных утварэнняў Камароўскі аналізуе з'яву звышнацыянальнай свядомасці — напрыклад, серб і югаслаў. Піша: „...А. Міцкевіча прызналі „сваім“ аж тры народы — палякі, літоўцы і беларусы...“ Камароўскі мае тут на ўвазе доўгую, супольную гісторыю гэтых народаў у межах разам створанай Рэчыпаспалітай.

Нацыянальнае рэнегацтва належыць да з'яў безумоўна рэакцыйных, уносячых у даную культуру элементы акасцянеласці, замкнутасці „на свет“, згубнай варожасці да „пакінутага“. Уводзіць этычную дэструкцыю асабовасці. Справы культуры і асабовасці з'яўляюцца неразлучнымі.

Зыгмунт Камароўскі, супрацоўнік Інстытута навуковай палітыкі і Вышэйшага школьніцтва, у гэтай сваёй публікацыі сабраў важнейшыя ўдакладненні апошніх гадоў, зробленыя вучонымі свету. Багатая бібліяграфія ўказвае на ўзрастаючае значэнне распрацоўкі праблемы шматкультурнасці — у кожнай канкрэтнай сітуацыі. Ломка ўсялякіх перагародак уводзіць у павестку сусветнага дня пытанне аб суіснаванні культур.

**Сакрат Яновіч**

## АЛЯКСАНДР КАРПОВІЧ

Некалі даведаўся я, што ў Варшаве пражывае надта цікавы чалавек Аляксандр Карповіч, які ў міжваенны перыяд прымаў актыўны ўдзел у барацьбе за вызваленне Заходняй Беларусі. Адбылася сустрэча з гэтым вясёлым, энергічным, нягледзячы на пажылыя гады і слабое здароўе, чалавекам. Расказаў я яму аб дзейнасці варшаўскага аддзела БГКТ. Ад гэтай сустрэчы А. Карповіч стаў пастаянным наведвальнікам у нашым памяшканні на Сенаторскай. І калі мы аднойчы пасяброўску разгаварыліся, расказаў ён мне сваю надта цікавую аўтабіяграфію.



Аляксандр Карповіч нарадзіўся ў 1901 годзе ў вёсцы Трошчыцы на Навагрудчыне ў беднай сялянскай сям'і. У школьныя гады трапілі ў яго рукі беларускія п'есы: „Чорт і баба“, „Збянтэжаны Саўка“, „Заручыны Паўлінкі“, „На папасе“ і іншыя. Неўзабаве за яго намовай вясковая моладзь змайстравала ў школе сцэну і пасля дазволу ўлад ставіла гэтыя п'есы, у якіх галоўныя ролі іграў А. Карповіч. Фактычна сцэна і паслужыла яму штуршком да ўдзелу ў беларускім вызваленчым руху.

У 1922 годзе, калі ўжо вучыўся ў Вільні, А. Карповіч прыняў актыўны ўдзел у агітацыі на беларускіх паслоў падчас выбараў у польскі сейм. Гэта перашкодзіла яму ў далейшай навуцы на месяцы. Таму ў 1923 годзе вымушаны быў нелегальна выехаць у чэшскую Прагу. Там скончыў сярэднюю школу і ў 1925 годзе паступіў на лясны факультэт Палітэхнічнага інстытута, які закончыў у 1931 годзе.

У Празе знаходзілася ў той час многа студэнтаў-беларусаў, было іх звыш ста чалавек. Студэнты гуртаваліся ў розных арганізацыях. Працавалі тут гурткі нацыяналістаў, эсэраў і гурток марксістаў, які меў афіцыйную назву „Саюз студэнтаў — грамадзян БССР“ і да якога належаў А. Карповіч. У гэтым гуртку А. Карповіч атрымаў грунтоўную падрыхтоўку да канспірацыйнай працы. Пасля атрымання дыплома інжынера быў ён накіраваны ў маі 1931 года ў Польшчу. Вярнуўся ў родную вёску, адкуль неўзабаве забралі ў польскае войска. Служыў паўтара года ў Інаўрацлаве.

У пачатку 1933 года па рэкамендацыі тав. Х. Аніскевіча (сябры А. Карповіча з Прагі), які ў той час працаваў нелегальна ў ЦК КПЗБ у Вільні, КПЗБ накіравала А. Карповіча ў Вільню на пасаду рэдактара-выдаўца „Беларускай газеты“. Працаваў там да лютага 1934 года, да свайго арышту.

Пасля двухгадовага следства А. Карповіча судзілі ў групе 16-ці, якую называлі „Малой беларускай Грамадой“. У гэтай групе знаходзіліся таксама Таўлай, Буднік, Місько і іншыя. Валянцін Таўлай рэдагаваў „Літаратурную старонку“, якая выходзіла як дадатак да „Беларускай газеты“. Судовы працэс адбыўся ў 1936 годзе, на якім Карповіч, Таўлай і Місько атрымалі па 8 гадоў турэмнага зняволення. Другая судовая інстанцыя зняла 3 гады. У 1937 годзе (на аснове амністыі пасля смерці Пілсудскага) А. Карповіч выйшаў на волю. Быў беспрацоўным аж да 1939 года.

Цяпер А. Карповіч жыве ў Варшаве, ён на партыйнай пенсіі. Узнагароджаны Кавалерскім Крыжам ордэна Адраджэння Польшчы, знакам „Тысячагоддзя польскай дзяржавы“ і знакам „Заслужаны армовец“.

**Віктар Швед**




■ У памяшканні ГП БГКТ адбыўся навагодні баль, на якім весела гулялі члены таварыства з горада Беластока. Іграў інструментальны калектыў беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ.

■ Пры варшаўскім аддзеле БГКТ арганізаваліся два самадзейныя калектывы. Тэатральны калектыў пад кіраўніцтвам Юзэфа Вакулевіча рыхтуе п'есу Алеся Пальчэўскага „Суседка“. Жаночым квартэтам кіруе студэнт трэцяга курса Вышэйшай музычнай школы ў Варшаве — Рышард Мушынскі.

■ 3 студзеня прэзідыум сямяціцкага аддзела абмеркаваў гадавую справаздачу, прадстаўленую сакратаром праўлення Міхасём Вішанкам. Была падкрэслена станоўчая з'ява: прэзідыум рэгулярна праводзіць свае пасяджэнні і ў сваёй працы звяртаў многа ўвагі на аплочванне членскіх складчын. У выніку гэтага членскія складчыны за 1974 год аплочаны ў 94%.

Наступнымі пунктамі працы прэзідыума былі: 1) зацвярджэнне плана працы на першае паўгоддзе 1975 года і інфармацыя аб падрыхтоўцы конкурсу на беларускую песню. У пасяджэнні прымалі ўдзел і выступалі ў дыскусіі старшыня ГП БГКТ і начальнік гміны ў Мілейчыцах.

■ Тэатральны калектыў гуртка БГКТ у Паўлах (Беластоцкі павет) на агляд БГКТ рыхтуе п'есу „Не верце цішыні“. Мастацкім кіраўніком тэатральнага калектыву з'яўляецца дырэктар школы — Валянціна Мароз. (мх)

(Працяг са стар. 1)




нальнай гаспадаркі. Электроніка і інфарматыка — вядучыя напрамкі развіцця варшаўскай прамысловасці.

Варшава пастаянна расце. На 1990 год прадбачана для яе каля 3 мільёнаў жыхароў. Ужо цяпер трэба асвойваць пад жыллё ўсё новыя і новыя абшары. Адзін з такіх будаўнічых палігонаў, славуты ўжо раён Стэгны — лес жыллёвых пунктоўцаў. Выпрабоўваюцца тут новыя метады будаўніцтва і матэрыялы. З суседняй (таксама новай і высокай) Садыбай спалучыць ён сталіцу з віллёва-палацовым Віляновам.

Варшаўскія трасы! І найпрыгажэйшая — Лазенкоўская, якая дасканала ўпісалася ў сучасную архітэктуру горада. А якімі тэмпамі разрастаецца даўней глухі Грохуў, Марымант ці Брудна! Неўзабаве вялікім будаўнічым пляцам стане на поўдні Варшавы Урсынуў і Натолін (самастойны комплекс на 150 тысяч жыхароў). З думкай аб гэтай частцы горада і пабудавана Вісластрада. Мяжа паўночнага боку сталіцы перасунецца аж да Легіянова. А поўдзень з поўначчу ўздоўж Маршалкоўскай спалучыць метро (24 км, 23 станцыі).

Вялікім мерапрыемствам з'яўляецца (пачатая ўжо) пабудова Варшаўскага навуковага згуртавання. У раёне сякеркаўскай дугі стане навуковы горад, у якім будзе жыць і працаваць 80 тысяч людзей.

У варшавян у асаблівай пашане спадчына. Успомнім толькі з піетызмам адбудаваныя Новы Свят, Старэ Място і Каралеўскі замак. Сталічныя ініцыятывы ў адбудове і захаванні помнікаў культуры не раз адгукаліся шырокім рэхам у краіне. І ніколі не бракавала добраахвотнікаў працай пакінуць нешта ад сябе ў сталіцы. Цікавым з'яўляецца і план заснавання ў Варшаве запаведніка забудовы XIX стагоддзя (раён на поўдзень ад Ерусалімскіх алеяў да Палітэхнікі). Не менш цікавы праект стварэння другой ракі Свідэр, якая плыла б (22 км) побач Віслы, адгароджаная ад яе валам. Другі Свідэр неглыбокі, чыставодны будзе вялікім купальным басейнам і дарожкай для лодак і каякоў.

Доўга чакаў сваёй чаргі цэнтр Варшавы. Цяпер узводзіцца ён з размахам, а яго архітэктурная візія выбягае ў XXI стагоддзе. Сваю долю ў канчатковы выгляд сэрца сталіцы ўносяць і беластачане. Стальны каркас галоўнага вакзала, які з'яўляецца адной з першапланавых будоўляў цэнтра, **родам з беластоцкіх Старасельцаў**. Ды не адным вакзалам будзем ганарыцца, прыязджаючы ў сталіцу, у кожнага знойдзецца тут нешта сваё, асабістае, пакінутае ў дар першаму гораду краіны.

І, углядаючыся ў сталеючае аблічча Варшавы, мы не раз будзем вяртацца ў суровы 1945 год, у мёртвы горад. Яго адраджэнне будзе нас натхняць на новыя подзвігі. І гарэць будзе вечны агонь на Алеі Жвіркі і Вігуры, дзе ў Маўзалеі савецкіх салдат спачываюць воіны I Беларускага фронту, якія, несучы польскай сталіцы вольнасць, звяршылі пад Варшавай свой апошні подзвіг. Гэты агонь асвятляе не толькі памяць, але і думкі.

**Г. Валкавыцкі**



*Будаўнічы палігон „Стэгны“.*




(Працяг са стар. 1)

сяк-так сваю гаспадарку. Прыехаў тады Андрэй з маткай і сястрой з намерам пабыць на вёсцы некалькі тыдняў і дапамагчы ў самых цяжкіх працах, а затрымаўся тут на ўсё лета. Ды і потым кожны вольны ад школьных заняткаў дзень ён праводзіў у Залуках. Бабчына гаспадарка запалоніла яго, хоць зямля была надта запушчана, а будынкі, апрача хаты, валіліся. Заняўся ён пры дапамозе маткі і сясцёр гадоўляй бройлераў, потым былі цацаркі, куры, качкі. Па шэсць тысяч штук у год. Але ўмовы былі надта цяжкія: не было адпаведнага будынка, корму, вады. Не вытрымаў. У 1970 годзе ліквідаваў усю гэтую „краму“ з намерам больш не вяртацца да яе.

Быў ужо ў чацвёртым класе тэхнікума, калі зноў пачуў непераможны кліч бабчынай гаспадаркі, кліч зямлі. Пакінуў вучобу, хоць яна яму давалася без цяжкасцей, і абсталяваўся ў Залуках. Разгарнуў гаспадарку на поўную пару: засеяў усё поле, завёў гадоўлю кароў і свіней. Ужо праз пару год трымаў 12 штук быдла і некалькі дзесяткаў свіней. Бабчыныя 9 гектараў аказаліся západ цеснымі, прыдбаў яшчэ пару гектараў з дзяржаўнага фонду зямлі. Аднавіў клуню, набыў трактар з прычэпам і камплектам машын для апрацоўкі зямлі, раскідвальнік гною, снопавязалку, машыны для падачы сена і саломы. Гаспадарыў ашчадна: толькі на куплю трактара ўзяў пазыку, якая цяпер ужо ўся амаль сплочана. Старанная праца прыносіла дасканалыя вынікі. Напрыклад, у 1973 годзе А. Завадскі прадаў 8 тон жыта, 10 тон бульбы, 15 кормнікаў, тону ялавічыны, некалькі дзесяткаў тысяч літраў малака.

Гадуе два племянных кнуры. Працуе ў асноўным сам, дапамагае яму матка, а ў часе канікулаў і адпускоў — сёстры. Бацька цяжка хворы на сэрца, дык занмога дапамагчы не можа.

— Аднойчы, — успамінае Андрэй, — па тэлевізару ішла перадача пра авечкагадоўлю. Загарэўся я да гэтай справы. Набыў 31 матку. І пайшло нядрэнна, хоць у 1973 годзе ў чараду ўварвалася ваўчыца з двума ваўчанятамі і зарэзала 18 штук. Было якраз лета. Страта аграмадная. Але вось цяпер маю 96 штук, а прадаў ужо 10 племянных баранчыкаў і 6 матак. Першакласнай воўны настрыгаю па 5 кг з авечкі і па 7-8 кг з барана. Як бачыце, даход немалы. Збіраюся наогул спецыялізавацца ў гадоўлі авечак. Давяду статак да некалькіх сот штук. Гэты новы хлеў, што цяпер будую, якраз прызначаны для авечак. На весну засею гектар кукурузы і салодкага лубіну на квашанку. На ёй збіраюся абаперці кармленне сваёй чарады. Зрэшты, хацеўшы мець вынікі з авечкагадоўлі, трэба дбаць пра корм. Трымаю я іх у асноўным у хляве, а корм падвожу амаль усю вясну і лета, па тоне ў дзень.

Андрэй Завадскі ўвесь час займаецца ў тэлевізійным сельскагаспадарчым тэхнікуме, многа чытае сельскагаспадарчай літаратуры. Ужо ёсць у яго дыплом кваліфікаванага гаспадара і акт уласнасці на гаспадарку. Павятовае упраўленне прызнала яму ганаровае званне прыкладнага гаспадара. У 1973 г. у алімпіядзе сельскагаспадарчых ведаў ён заняў першае месца ў павеце і пятае ў ваяводстве. Ва ўзнагароду паехаў на экскурсію па перадавых гаспадарках і навукова-доследных інстытутах, што знаходзяцца ў паўночна-заходняй Польшчы. Журы ваяводскага конкурсу алімпіяды прызнала яму кінакамеру „Аўрора“. І яе Андрэй збіраецца скарыстаць — сфільмаваць асноўныя этапы развіцця сваёй гаспадаркі. У 1973 г. ён быў узнагароджан Сярэбраным знакам ЗСМВ і ўдзельнічаў у Злёце перадавікоў вучобы і працы ў Кракаве. У 1974 г. А. Завадскі заняў I месца ў ваяводскай алімпіядзе сельскагаспадарчых ведаў.

Мяжа ўласнай гаспадаркі не аддзяляе Андрэя ад грамадства. Ён — актыўны грамадскі і маладзёжны дзеяч у сваім сяле і Гарадоцкай гміне. З'яўляецца старшынёй гуртка ЗСМВ у Залуках, намеснікам старшыні гміннага праўлення гэтай арганізацыі ў Гарадку і членам пленума павятовага праўлення ў Беластоку. У 1974 годзе яго прынялі ў рады ПАРП.

Калі мы развітваліся, ён спяшаўся даць вячэрнюю порцыю корму жывёле, каб зараз жа падацца на сельскі сход, які ў той снежны вечар меў адбыцца ў Залуках.

На залуцкай вуліцы ярка свяцілі электрычныя лямпачкі, мітусіліся густыя сняжынкі, і ў гэтым чароўным пейзажы ранняга зазімку асабліва прыгожа малявалася фігура Андрэя Завадскага — маладога энтузіяста сучаснай сельскай гаспадаркі.

**Мікалай Гайдук**

Фота аўтара

(Працяг са стар. 2)




польску? Пасля сустрэчы высвятлілася. Гэта студэнты з Львова. Аказалася, што прыехалі сюды на канікулы на работу. Пытаю іх, колькі заробяць за два месяцы. 1.000 рублей, адказалі мне, гэта значыць 15.000-20.000 злотых, што там гаварыць — не дрэнна!

Вечарам, пасля сустрэчы, зноў банкет і вясёлая размова. Калі мы ўжо выйшлі з-за сталоў, я амаль лоб у лоб сутыкнуўся з нейкай прыгожай паняй. Пачаў ёй гаварыць розныя кампліменты. Урэшце закончыў: — Мы вас кахаем і вы не дапускайце да сябе японцаў, гэта значыць мужчын. А пані, паказваючы на аднаго здаравеннага пана, пытае мяне:

— А гэтага японца дапускаць?

— І гэтага не! — адказваю.

— А як яго не дапусціш, калі ён мой муж!

Кругом узрыў смеху, я аднак не збянтэжыўся і сказаў:

— Калі так, дык дапускайце, але толькі сімвалічна.

Зноў рогат. Але і пані за словам у кішэнь не палезла.

— Чуеш, — сказала мужу, — ад сёння толькі сімвалічна.

Ад новай хвалі смеху ўскалыхнулася зала!

Канец! Хутчэй на судна спаць.

Скажыце самі, чытачы, ці ж гэта не быў цікавы дзень?

**Алесь Барскі**




## Нашаніўская пара

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ**
**—ЧАСТКА XXXV**

**Проза.** Апавяданні Багдановіча „Марына“, „Гарадок“, „Вясной“ і апавяданне без загалоўка па сутнасці маюць характар эцюдаў, прысвечаных розным тэмам і розным праблемам. Найбольш закончаную цэласную форму мае апавяданне „Марына“. Дадзена ў ім цікавая характарыстыка не так дзіцячай псіхалогіі, як псіхалогіі адносін паміж дзіцём і дарослымі. У цэнтры твора пастаўлена некалькігадовая дзяўчынка Марына.

Асабліва цікавыя апошнія фрагменты апавядання. Там дзіця Марына, назіраючы за дарослым мужчынам, які плача, прымае позу пацяшальніцы і ўжывае тыя аргументы, якімі заўсёды паслугоўваецца дарослы ў адносінах да дзяцей.

„ — Не плач... ну, не плач... як табе не сорамна: такі вялікі, а плачаш... Не плач... Глядзі ж, не плач, а то і я заплачу.

І, бачачы, што Базыль не адбірае рук ад твара, трохі супынілася, але тут жа нешта згадала і пачала шпарка шукаць у кішэні. Праз паўмінуты ў яе кулачку ляжала стракатая цукерка, каторую яна прабавала пакласці ў далонь Базылю, прыгаварваючы разам з гэтым:

— Вазьмі цукерку, толькі не плач. Ах, які ты дурань... Чаго ж ты плачаш? Я ж табе цукерку даю“.

Так мы, дарослыя, гаворым дзецям, калі яны плачуць. Тут дзіця гэтак прамовіла да дарослага, бо ў кожным дзіцяці ёсць элементы дарослага і ў кожным дарослым элементы дзіцяці. Гэтую праўду заўважыў і паказаў у апавяданні Багдановіч.

Апавяданні „Гарадок“ і твор без загалоўка, які пачынаецца ад слоў „Сярод глухой пушчы стаіць невялікая вёсачка“, цікавыя сваім этнаграфічным характарам. Першае з іх прысвечана апісанню мястэчка, другое характарыстыцы вёскі.

Досыць цяжка сказаць, аб якім мястэчку ідзе гутарка ў апавяданні „Гарадок“. Няма тут назвы мясцовасці і не сказана, у якой краіне ён знаходзіцца. Пачынаецца яно амаль казачнай агульнай формулай „Над крутым берагам ціхай, светлай рэчкі, на ўзгорку, стаіць гарадок“. І тут канчаецца агульнасць. Усё тое, што ёсць далей, насычана канкрэтамі, дэталямі, фактамі. Этнаграфізм праяўляецца ў тым, што аўтар дэталёва рысуе і характар заняткаў жыхароў гэтага гарадка і іх класавае расслаенне. Калі чытаем твор, здаецца нам, што Багдановіч пабываў у нейкім мястэчку і дакладна апісаў яго жыццё. Тым часам мы ўпэўнены, што пісьменнік ніколі не бачыў таго, аб чым гаворыць. Чаму? Аўтар апісвае, як кавалі ў кузнях куюць „шэломы“ і „кальчугі“. Гэта значыць, што жыццё, прадстаўленае ў апавяданні, адносіцца да глыбокага мінулага. Вядома, што ў XX ст. кавалі ўжо не кавалі такой вопраткі. Значыць, у гэтым творы маем дачыненне толькі з уяўленнем пісьменніка аб далёкім-далёкім мінулым. Але пішучы аб гэтым глыбокім мінулым, пісьменнік карыстаецца такой вялікай колькасцю фактаў, што стварае ўражанне, быццам усё гэта адбывалася на яго вачах.

Вось у гэтым якраз і праяўляецца сапраўдны літаратурны дар.

Такі ж, амаль навукова-даследчыцкі этнаграфізм акрэсліў таксама характар апавядання без загалоўка, якое пачынаецца ад слоў „Сярод глухой пушчы“.

Так, як і апавяданне „Гарадок“, гэты твор сваім зместам адклікаецца да далёкіх часоў. Багдановіч апісвае, як селянін Каліна разам з сваімі пяццю сынамі прыйшоў у пушчу, выкарчаваў яе, спапяліў, абярнуў ва ўраджайнае поле. Багдановіч выступае тут як дасканалы знаўца старыны, сямейнага побыту, абраднасці.

„Калі памёр Каліна, зрабілі дзеці па ім памінкі — трызну і пахавалі яго ў зямлі, паклаўшы туды яго лепшыя і патрэбнейшыя рэчы: сякеру, нож, агніва, красала і шмат іншага. Рабілі так, бо думалі, што ўсё гэтае будзе патрэбна бацьку на тым свеце, як і на гэтым. Каб успакоіць бацькаву душу, чатыры разы на год спраўлялі „дзеды“, па радаўніцу насілі страву на бацькаву магілу, каб было яму што пад'есці. Думалі, што праз гэтае бацькава душа будзе памагаць ім у гаспадарцы і адверне ад іх усялякае ліха.

І ўсе іншыя русічы таксама пакланяліся душам бацькоў. Апроч гэтага, пакланяліся яны сонцу, бо ад сонца найбольш залежала ўся іх гаспадарка, увесь іх быт...“

Гляньце, колькі ў гэтым фрагменце мастацкай навуковасці! Як умела пісьменнік выкладыў у лёгкай, займальнай форме свае веды аб фальклорна-этнаграфічным мінулым свайго народу.

Апошні празаічны беларускі твор Багдановіча „Вясной“ — гэта імпрэсія, эцюд, песня ў чэсць вясны.

Пісьменнік усхвалявана апавядае аб красе вясны, аб яе ўплыве на душу чалавека. Апавядае аб найпрыгажэйшай еднасці. Аб еднасці чалавека і зямлі. У гэтым апавяданні ёсць нешта першабытнае, язычаскае, але не чужое яму і супер-сучаснае, экзальтаванае. Апавяданне „Вясной“ гэта твор аб тым, што ў нас і ў зямлі прыгожае. А гаворачы дакладней, твор аб тым, як зямля выклікае да жыцця ў нашым сэрцы хараство. А хараство заўсёды разнаколернае і многазначнае, такое, якім быў Багдановіч.

 

## СЕННЯ І ЗАЎТРА ГМІННЫХ ЦЭНТРАЎ

# Храбалы

Храбалы — адна з найменшых вёсак, якая набыла ранг гміннага цэнтра. Нягледзячы на тое, што раней была тут сядзіба былога Прэзідыума ГРН, не было ў гэтай вёсцы ані школы, ані клуба. Адным з большых дасягненняў Храбалоў быў пункт аховы здароўя (у ім працуе дасканалы лекар, аб якім разыходзяцца ў ваколіцы словы ўдзячнасці) і адміністрацыйны будынак, у якім і цяпер знаходзіцца гміна.

У апошнія дні мінулага года наведалі мы Храбалы. Начальніка гміны таварыша Уладзіміра Ляўко засталі за сталом. Знаёміўся з карэспандэнцыяй, якая надышла з павету. Ён, як заўсёды, ветліва сустракае нас і ахвотна расказвае аб сваім мікрараёне, аб дасягненнях сельскагаспадарчай вытворчасці, аб узросце (хаця невялікім) жывёлагадоўлі і на фактах паказвае, што іх гміна па рэалізацыі планаў Беласточчыны ў галіне жывёлагадоўлі свае планы нават перавыканала, нягледзячы на неспрыяльныя атмасферныя ўмовы, якія мелі адмоўны ўплыў на падрыхтоўку пашы. Затым начальнік гміны гаворыць аб перадавых жывёлаводах — Васілю Барысюку з Кнаразоў, Міхасю Міранюку з Гацькоў, Васілю Коршаку з Храбалоў, Івану Гліве, Пятру Сідаруку і інш. Гмінная сельскагаспадарчая служба ўсё робіць, каб раўняцца на найлепшых.

Значна дапамагае ў гэтым камасацыя сялянскіх зямель. У мінулым годзе закончана ліквідацыя цераспалосіцы ў Райску, Храбалах і Гацьках. У выніку яе выдзелена 350 га дзяржаўнага фонду зямлі. У наступным годзе закончыцца камасацыя ў Плюцічах і Яцэвічах. Там таксама выдзеліцца 400 га дзяржаўнага фонду зямлі. Загаспадарвае гэтыя землі ПГР. І гэта адзіны правільны шлях, таму што сельскагаспадарчыя гурткі не ўпраўляюцца ў загаспадарванні большых абшараў зямельных угоддзяў. 1976 і 1977 гады прынясуць палёгку сялянам у Дзянісках і Плёсках, дзе таксама будзе ліквідавана цераспалосіца. Многія старэйшыя гаспадары здаюць зямлю дзяржаве. У гміне Храбалы за пенсію перадаюць дзяржаве свае гаспадаркі 70 гаспадароў. 50 сялянам ужо выдадзены пастановы аб пенсіі.

На працягу мінулых двух гадоў гміна ў Храбалах умацавалася арганізацыйна і, маючы значна большыя правы, чым былы ПГРН, добра служыць насельніцтву і дзяржаве. Пройдзе некалькі гадоў, і зменіцца аблічча гэтай вёскі. Храбалы, так як і іншыя гміны, маюць апрацаваны план развіцця да 1980 года.

У самім гмінным цэнтры ўжо ў мінулым годзе шмат зроблена. Адноўлен пункт аховы здароўя, створан аптэчны пункт, пашырана вуліца, зроблены кравэнжнікі, а ў бягучым годзе будуць паложаны ходнікі і асфальт на маставой.

Ужо ўсё гатова, каб разбудаваць адміністрацыйны будынак. Сваё памяшканне ў разбудаваным будынку будзе мець пошта.

Бельскі ГС пабудуе будынак, у якім будуць рабіць паслугі „Практычная пані", цырульнік і інш. Будзе пабудавана вялікая крама на прамыслова-спажывецкія тавары.

У Храбалах няма школьнага памяшкання. Гмінная зборная школа знаходзіцца ў цесных сялянскіх хатах. У 1976 г. распачнецца будова прыгожага школьнага будынка, кошт якога складзе 18 мільёнаў зл.

Да 1980 г. прадбачана таксама пабудаваць жылы блок для 18 сем'яў. Жыць будуць у ім настаўнікі, працаўнікі гміны (цяпер амаль усе працаўнікі гміны даязджаюць), пошты, аховы здароўя і г.д. Варта заўважыць, што ў пункце аховы здароўя будзе хутка працаваць таксама стаматолаг.

Пройдзе некалькі год, і жыхары ўсіх 12 вёсак, якія належаць да гміны, амаль усе свае справы змогуць уладжваць у Храбалах. Бо тут улада, тут лекары, тут пошта, школа, крамы і паслуговыя пункты.

Членаў ПАРП у гміне налічваецца 160 чалавек. Гмінны камітэт ПАРП, які ўзначальвае штатны сакратар Мар'ян Казлоўскі, добра працуе і з'яўляецца сапраўдным палітычным кіраўніком у сваім асяроддзі, у сваім мікрараёне.

**М. Хмялеўскі**

# ФАЛЬКЛОР

*ХРЫСЦІННАЯ*







*— Ой, хмэлю мой, хмэлю,*
*Нэ по дэрэві ходіш.*
*Ой, чом жэ ж ты, хмэлю,*
*З голоўкі нэ выходіш?*
*— Ой, як я маю*
*З голоўкі выходіті —*
*Нэ по поўной чароньцы*
*Мэд-горэлоньку піті!*
*Мэд-горэлонька —*
*Чужая сторононька.*

*Молода дівчына —*
*Чужая намовонька.*
*— Дівуютсе людэ:*
*„О, то што за такое?"*
*А то наробіла*
*Мэд-горэлонька тое.*
*Іду до корчомкі,*
*Як паньская дітіна —*
*Іду із корчомкі,*
*Як маті народіла.*

Ад Антаніны Якімюк, 1902 г. нараджэння, вёска Шчыты Бельскага павету, запісаў 8 кастрычніка 1974 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіла Людміла Панько.

## ТАК БЫВАЕ...

# ДАІГРАЛАСЯ

Не ведаю, хто гэта сказаў, што сярод гарадскіх жанчын толькі тая добрая і верная жонка, якая не мае пад дастаткам ані грошай, ані часу. Бацькі Ірэны К. жылі заможна. Давалі Ірэне грошай больш як трэба. А калі маладая дзяўчына добра апранута і сытая, дык грошы траціць у кавярнях, у рэстаранах. Яна і курыць, і п'е, і на „данцынгі" ходзіць. Тады знойдуцца спецыялісты, якія высысаюць грошы і вялікімі сябрамі яе лічацца. Ірэна закончыла сярэднюю школу, выйшла замуж, нарадзіла сына, якім поўнасцю заняліся бацькі. Яна працавала ў краме. Муж яе, клапатлівы, працавіты чалавек, па супольнай згодзе выехаў на паўгода на Шлёнск, на вельмі добраплатную работу. Пачаў насіцца з думкаю, каб купіць „Сірэнку", і таму за доўгім грашом пагнаўся на другі канец Польшчы.

Ірэна працавала, да дзіцяці ніколі не спяшалася, бо бабуля лепш умела даглядаць унука, чым маці. Стала яна ў кавярні заходзіць, стала шукаць для сябе прыемных уражанняў і знайшла маладога чалавека, з-за якога забылася аб вернасці мужу. Хадзіла з ім па рэстаранах, гуляла часта да поўначы і рахункі плаціла па 500, 600, а нават 800 зл. „Адкуль ты грошы бярэш?" — спытаў аднойчы ў яе ўхажор. „Бацькі мне даюць, кажуць, што раз бывае маладосць і не трэба марнаваць маладых год", — адказала яму.

Але тых грошай, якія давалі бацькі, не хапіла б на рэстараны першай катэгорыі. Ірэна пачала браць грошы, утаргаваныя ў краме. Брала і гуляла, зусім не думаючы аб тым, што ўсё гэта да часу, што выкрыецца злачынства. І выкрылася. У касе пасля „рэманэнту" не хапіла 90 тысяч. Ірэну арыштавалі. На судзе прызналася яна да віны. Яе гуляшчае жыццё падчас адсутнасці мужа было прадстаўлена на судзе пракурорам.

На судзе прысутнічаў яе муж, і гэта было для яе найстрашнейшае, бо ў лістах жа пісала яна яму, што вельмі па ім сумуе, нікуды не ходзіць і нікім не цікавіцца.

Муж не сцярпеў знявагі, не падышоў да жонкі ў час перапынку працы суда, калі дазвалялі з ёю гаварыць. Не чакаў прыгавора суда і не хацеў ведаць, на колькі засуджана жонка. Прыйшоў дамоў, у хату бацькоў жонкі, вылаяў цёшчу за тое, што не пратэставала супраць распуснага жыцця дачкі, забраў двухгадовага сына і выехаў назад на Шлёнск.

Ці паступіў правільна, цяжка сказаць. Шкада нявіннага дзіцяці.

**М. Сваяк**



## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

# ЮРКА ТРУСЕВІЧ

Васемнаццацігадовы Юрка Трусевіч з Новага Ляўкова Гайнаўскага павету дабіўся добрых вынікаў у спорце. Яшчэ ў пачатковай школе ён найлепш кідаў ядро. Калі вучыўся ў восьмым класе, удзельнічаў у міжшкольных спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы і заваяваў першае месца ў павеце. На ваяводскай алімпіядзе ён заняў заслужанае пятае месца. Асабліва вылучаўся сярод скакуноў і ў кіданні ядра.

На гміннай алімпіядзе ў Нараўцы Юрка Трусевіч скочыў 5,13 м і заваяваў першае месца. У вышыню ён скочыў 1,45 м і кінуў ядро на адлегласць 11,48 м. У гэтых спаборніцтвах заняў другое месца. Гэта мінулагоднія вынікі.

Юрка Трусевіч вучыцца ў прафесіянальнай школе ў Гайнаўцы. Ён у вольныя хвіліны ходзіць на трэніроўкі, цікавіцца рознымі спартыўнымі розыгрышамі на стадыёне, чытае спартыўныя газеты. Юнак гэты не толькі спартсмен, але і заўзяты балельшчык.

Бацька Юркі прасіў дадаць, што яго сын з'яўляецца незамянімым памочнікам на гаспадарцы. У мінулым годзе, як вядома, часта ішлі праліўныя дажджы. Немагчыма было касіць траву касілкай. Таму Юрка скасіў яе касою. Выпала на яго долю больш двух гектараў сенажаці.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

# Канявод з Ляўкова

Селянін Васіль Трусевіч, жыхар вёскі Новае Ляўкова Гайнаўскага павету, ужо 27 гадоў гадуе жарабцоў. Коней гадаваў таксама яго бацька. Жарабцы Васіля Трусевіча на спецыяльных аглядах займаюць першыя месцы. Таму канявод атрымлівае грашовыя прэміі і дыпломы. Ляўкоўскі гаспадар гадуе пераважна жарабцоў арданскай і сакольскай пародаў. Некаторыя з васьмі выгадаваных ім жарабцоў мелі цікавыя мянушкі: Мацек, Пальмір, Бучач, Густан. Аб кожным з іх Васіль Трусевіч ахвотна расказваў бы цэлымі гадзінамі. Кожны пакінуў след ва ўспамінах. Конь, вядома, гэта жывёла, якая за гады пачынае ўсё лепш разумець свайго гаспадара. Конь верны памочнік селяніна.

Васіль Трусевіч ахвотна дзеліцца сваім вопытам з усімі, хто цікавіцца гадоўляй коней. У яго конь заўсёды добра дагледжаны, чысты і моцны. Ён неўгамонны і нястомны. А да таго слухаецца толькі свайго гаспадара.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Гаспадар і яго жарабец Густан.*



 

## ВЕР-НЕ ВЕР

Наша чытачка К. П. піша: „Прысніўся мне сон: ела я хлеб-разовец, чорны, але свежы, пышны, на дзіва смакавіты. Ела я яго з вялікім задавальненнем. Можа Астрон дапаможа мне высніць, што азначае гэты сон і ці не прадвяшчае чорнай бяды?“

Калі вам прысніўся **хлеб на палях,** г. зн. збожжа буйное, густое, што сыпнула шчодра, — чакае вас поспех і багацце.

**Хлеб печаны, белы, свежы** — здароўе і радасць.

Калі ж вам прысніўся **чорны, чэрствы хлеб** чакае вас цяжкая праца і беднасць.

Па ўсяму відаць, што сон ваш, аднак, добры. Хіба ж сённяшні разовец, хаця і чорны ён, але, як ведаюць усе, найбольш здаровы і, як вы пішаце, быў у сне свежы, пышны, смакавіты, можа прадвяшчаць нядобрае?.. Чакае вас тады, бадай, вялікае задавальненне.

**Астрон**

## Этнаграфічнае акенца

*Вёска Іванкі Гайнаўскага павету.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: На аснове завяшчання жонка памершага атрымала ўсю яго маёмасць, з тым, што запісам была абавязана аддаць сыну пляц, які знаходзіўся ў горадзе і быў часткай нерухомай маёмасці. Згодна з завяшчаннем, суд сцвердзіў, што адзінай наследніцай з'яўляецца яго жонка. Сын атрымаў свой пляц, але не мае ўласнасці гэтага пляцу, бо ў рашэнні суда названа толькі яго маці. Што ён павінен зрабіць, каб пляц быў перапісаны на яго? Ён хоча пабудавацца на пляцы.

АДКАЗ: Паколькі маці яго згаджаецца аддаць яму пляц, справа можа быць аформлена ў натарыуса. Калі б паміж маці і сынам узнік спор, справу мог бы вырашыць суд. Калі спадкадаўца запісвае ўсю маёмасць аднаму наследніку, а абавязвае яго, каб ён выдаў іншай асобе канкрэтны прадмет (у нашым прыкладзе пляц), суд сцвярджае правы на спадчыну толькі на аднаго наследніка, а другі мае права патрабаваць выдачы яму гэтага прадмета. Дабраахвотная выдача не пераносіць права ўласнасці. Да гэтага неабходна або натарыяльная ўмова, або асобнае рашэнне суда. Калі спадчыну складае гарадская нерухомая маёмасць, падзел яе можа быць праведзены толькі дзякуючы згодзе гарадскога ўпраўлення. Без гэткай згоды ані суд, ані натарыят у нашым прыкладзе не перанясуць уласнасці на сына.

## Беларускія кнігі

У кнігарні імпартных выданняў „Дом кнігі“ ў Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Змітрок Бядуля,** Апавяданні, 1973, стар. 160, цана 3 зл.

Зборнік складаюць самыя папулярныя апавяданні пісьменніка. Уступны артыкул І. Кудраўцава, прысвечаны творчасці Зм. Бядулі.

Беларускія народныя казкі, 1973, стар. 144, цана 8 зл. 10 гр.

Выбраныя казкі пераважна ў літаратурнай апрацоўцы А. Якімовіча і Я. Коласа. Каляровыя ілюстрацыі А. Лось.

**Пятро Глебка,** Наш лес, 1973, стар. 30, цана 2 зл. 70 гр.

Кніжка адрасавана малым чытачам. Каляровыя малюнкі З. Петрушэні.

**Васіль Вітка,** Беларуская калыханка, 1971, стар. 40, цана 1 зл. 10 гр.

Паэма, прысвечаная матчынай калыханцы — першай цудоўнай народнай песні, якую мы чуем, прыходзячы на свет.

Кнігарня таксама высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:
„Dom Książki” 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

## Куток практычных ведаў

## У здаровым целе здаровы і дух

### ЯК УПЛЫВАЕ НАДВОР'Е НА ЗДАРОЎЕ ЧАЛАВЕКА

Многія людзі задаюць сабе сёння пытанне: чаму так хваравіта адчуваюць яны розныя змены пагоды?

Так, даўней гэтак не было. Зразумела, што сто год таму назад чалавек быў менш уражлівы на надвор'е. Але тады ён хадзіў пехатой, не жыў у аграваных паравым ацяпленнем кватэрах, часцей мок на дажджы і пражыўся на сонцы. Адным словам, больш часу праводзіў на лоне прыроды, быў бліжэйшы да яе і таму менавіта быў дастаткова адпорны на яе атакі.

Жыццё сённяшняга чалавека вучоныя называюць фізічным дыскамфортам — недахоп стымуляцыі арганізму натуральнымі сіламі прыроды. Гаворачы працай, цывілізацыя зрабіла чалавека менш загартаваным, і таму чалавек адчувае цяпер сябе так дрэнна з-за капрызаў прыроды. Заўважце, напрыклад, як лёгка мы сёння прастуджваемся, як часта маем катар.

Сённяшні жыхар нашай планеты рэагуе значна больш жыва на адвечныя з'явы прыроды, дзякуючы якім вагаецца надвор'е і клімат. Яго арганізм адказвае на гэтыя з'явы складанымі біялагічнымі рэакцыямі, якія адбываюцца ў асноўным у сферы нервовай сістэмы.

Рэакцыі гэтыя бываюць розныя. У адных нізкі ціск атмасферы выклікае галаўныя болі ці хваробу страўніка. У іншых — соннасць і аслабленне. У адных тармазіцца час рэакцыі на знешнія стымулы, у другіх наадварот — пачынаецца бяссонніца, узмацняецца ўражлівасць на боль. Сёння ёсць нават навука, так званая біяметэаралогія, якая з'яўляецца нібы спалучэннем медыцыны з фізікай атмасферы. Чалавека, уражлівага на надвор'е, назвала яна метэарапатам.

Зразумела, нельга сцвярджаць, што ўсе мы імі з'яўляемся. Аднак, несумненна, што найбольш іх знаходзіцца сярод жыхароў вялікіх гарадоў. Тут, у сваю чаргу, найбольш уражлівыя хварэюць хваробамі цывілізацыі: сэрца, крываносная і дыхальная сістэмы, жалудак, нервовая сістэма. Гэтыя людзі рэагуюць не толькі на ваганні надвор'я на працягу дня, але і на поры года. Вядомыя асенне-вясновыя крызісы язваў жалудка, сэрцавых хвароб, астмы і г.д.

Сёння спецыяльная інфармацыйна-асцерагаўчая біяметэаралагічная служба апрацоўвае штодзень паведамленні аб біяметэаралагічнай сітуацыі. Яны маюць вялікае значэнне для працы лётчыкаў, шафёраў, людзей, якія працуюць у прамысловасці. Усюды там, дзе патрэбна, як кажуць, „ясная галава“, хуткі рэфлекс, канцэнтрацыя ўвагі, максімальная псіхафізічная спраўнасць. Ці сённяшні чалавек беспаваротна здадзены на ласку прыроды? Ёсць на гэта рада, але не ў выглядзе кавы ці таблетак на ўспакаенне або ажыўленне. Перш за ўсё трэба ўрэгуляваць свой дзень. Наладзіць прапорцыі паміж працай і адпачынкам, раней устаючы і раней кладучыся спаць, а таксама сочачы за рэгулярнымі гадзінамі спажывання ежы. Старацца спаць пры адкрытым акне, як найбольш хадзіць пехатой, мыцца халоднай вадой і рабіць масажы жорсткай шчоткай, не занядбоўваць ранняй гімнастыкі.

**Эскулап**

## Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

Мне 25 год. Хацеў бы ажаніцца, мець сям'ю, але я не ўпэўнены, ці змагу быць добрым мужам, бацькам...

Да гэтай пары вёў я жыццё бестурботнае, былі розныя дзяўчаты... Жыў заўсёды сённяшнім днём. І аднойчы вось пазнаёміўся з Галяй. Была зусім іншая, мілая, талковая, а да таго прыгожая якая!.. Цягнула мяне да яе. А яна намаўляла, каб пакінуў сяброў ды гарэлку, каб не граз далей, як казала, у гэтым „багне“. А я ўсё ж больш бываў з імі і Галю наведваў толькі час ад часу. Зарабляў я добра, але грошай заўсёды не хапала. І задумалі мы з сябрамі грошы здабыць. Аграбілі краму. Папалі ў рукі міліцыі. Пасадзілі нас за краткі, там прасядзеў восем месяцаў. І толькі тады, у турме, прааналізаваў я сваё жыццё. Адчуў, як патрэбна мне Галіна, яе добрыя рады. Адважыўся напісаць ёй пісьмо, хоць адказу не спадзяваўся, думаў, што мяне ўжо пакінула. Адпісала вельмі хутка. Потым былі яшчэ лісты, сардэчныя, чуллівыя. Больш ніхто мной не цікавіўся. Забыліся і сардэчныя, як калісь здавалася, сябры, і вясёлыя дзяўчаты. І толькі яна асталася маёй падпорай і надзеяй. Цешылася, калі вярнуўся з турмы. Цяпер працую, пакінуў былых сяброў, у кілішак менш заглядаю, аднак не ведаю, ці пасля ўсяго гэтага я маю права быць мужам і бацькам?

**Ігар з Бельшчыны**

**Ігар!** Тваё жыццё павінна быць табе навучкай на будучыню. Шукальнікі лёгкага жыцця найчасцей праігрываюць. Жыццё (гаварыў Мікалай Астроўскі) трэба пражыць так, каб не было пакутліва крыўдна за бязмэтна пражытыя гады. Добра, што зразумеў ты сваю памылку і стараешся яе выправіць. Сабутыльнік — гэта яшчэ не сябар. Забудзься пра гарэлку, а знойдуцца і сапраўдныя сябры. Галя — першы з іх. Думаю, што сябар надзейны на ўсё жыццё.

**„Сэрцайка“**

## САКРАТ ЯНОВІЧ
## СЯРЭБРАНЫ ЯЗДОК

Уладак Прончык рубаў дровы, калі прыйшлі да яго і сказалі:

— Здрастуйце!

Па-руску.

— Добры дзень, — адказаў на прывітанне.

— Заўтра к паліцмайстру, у Саколку, — сказалі.

Прончык спалохаўся. Потым перапалох вырас у злосць; адвячоркам пасварыўся за штосьці з жонкаю, лёг на лаву. У галаве па-чмялінаму гудзела.

Прамітусіўся да цямна — карміў жывёлу.

Апоўначы падыйшоў да жонкі, сказаў ёй:

— Пабачу карову... — на днях мелася выцеліцца яна.

На панадворку — холад. Ад Чортавага луга — туман з-над цёплых затокі. Прончык прытаіўся пад страхою. У Радэля заўзята брахаў сабака, аж пакуль не крыкнуў на яго, відаць, сам гаспадар. Да іх хтосьці прыйшоў, але ў вокнах — цёмна! Мо сваяк?

У ногі даймаў мароз. Асцярожна стаўшы на звязку сухой саломы, адчуў палёгку, варушыў пальцамі, рабіў гэта так, каб не хруснула ніводная сцяблінка. Шахацелі мышы. Добра прызвычаіўшы зрок да цемені, Прончык прыглядзеўся да кожнага слупіка, дрэва, вугла, улоўліваючы найменшы шолах або рух. Меў план: цераз вішнёвы зараснік пойдзе ў рэдкалессе, што на ўскраіне поля, далей — у лес. Нельга выходзіць на прастору, а каб не скрыпеў снег пад нагамі, не ступаць трэба, але сунуцца, быццам на лыжах, падэшвамі шаруючы па зямлі, неглыбока, плытка.

Пайшоў да лесніка Адама Вільдовіча, разбудзіў яго.

— Што здарылася, Уладак? — маўклівы твар Прончыка ўстрывожыў яго.

— У Саколку клічуць! — цяжка асунуўся ў куце. Дыхнула трывогаю. Дадаў: — Паліцмайстар кліча...

— Сабакі! — Вільдовіч сеў побач.

Замаўчалі.

Прончык, усё роўна, бы прынёсшы мяшок сырога збожжа, адпачываў. Вільдовіч устаў, ціха ўстаў, аж Прончыку зрабілася несамавіта ад таго.

— Пагляджу на двор.

— Нікога не заўважыў, сядзь, — Прончык доўга не падыходзіў пад хату Вільдовіча.

— Ты — кудою ішоў?

— Зараслямі, ад Чортавага луга, — і растлумачыў: — Цераз багоннік, ускрай бяздонніцы...

Вільдовіч памкнуўся да пячы, каб запаліць лучыну: дурная звычка! Хутка сеў назад. Зусім блізка мармытаў праз сон кот, гукала сава.

Гаварылі папоцемку.

— Ад часу, калі нашы забілі Панкевіча, паліцыя нічога не ведае пра паўстанцаў, — гаварыў Вільдовіч, голас дзеравянеў. — Паліцыя наогул ведае стольк, колькі ёй хтосьці скажа або данясе...

— Думаеш, хтосьці нагаварыў ім на мяне? — Прончык не мог супакоіцца.

— Магчыма... — і Вільдовіч укусіўся ў язык: яго ашаламіла здагадка, ад якой засохла ў горле і якую пабаяўся выказаць. „Аднак, трэба сказаць, трэба папярэджваць факты, — тлумачыў сабе. — Як я мог усумніцца ў Прончыку! Не можна дзейнічаць, нікому не давяраючы...“

Вільдовіч сказаў:

— Слухай, Уладак: здаецца, справа будзе ў чым іншым... Паліцмайстар не кліча, каб арыштоўваць...

Дакончыў Прончык:

— Хочуць зрабіць з мяне шпіёна?

Добра здагадаўся ён і таму моцна засоп.

— Думкі паліцыі — таемныя ды хітрыя, — засмяяўся Вільдовіч. Стала лягчэй.

Кот, і той мармытаў пасмешліва...

— Уладак, — Вільдовіч падсеўся бліжэй. — Будуць пытаць цябе пра паўстанцаў: не пярэч, што бачыў іх, бо не паверачь табе. Гавары праўдзіва, але так, каб нікому не пашкодзіць. Перад усім — без прозвішчаў гавары, не падавай ім дакладных месц. Паліцыя пераканаецца, што кажаш праўду, ды замала ведаеш. Тады, бадай, спрабуюць цябе завербаваць на супрацоўніка, бо падумаюць, што ты далёкі ад паўстання. Не адмаўляйся ад супрацоўніцтва, згаджайся, ды не падпісвай, чуеш, ніякіх паперкаў. Памятай: згаджайся, не падпісвайся! Рабі з таго ганаровую справу... — Вільдовіч разважаў варыянты.

„Добра табе раіць камусьці,“ — незнарокам падумалася Прончыку. Ён вярнуўся ад Вільдовіча з моцным болем у галаве.

На досвітку рушыў у Саколку. Не даходзячы да яе, у Куроўшчыне яго перапыніў казацкі патруль. Быў дзень.

У Саколцы, ля канцылярыі паліцыі, стаяў вартавы.

— Ты куды? — да Прончыка.

— Паліцмайстар клікаў.

— Ага, — вартавы расхмурыўся, Прончыкавы рукі на месцы. — Пачакай, — прывёў жандара.

Жандар не цікавіўся, адрэзаў паводле звычкі:

— Ідзі за мною.

Увайшлі ў нейкі калідор: паабапал — дзверы, цёмныя, як бы іх ніхто не адчыняў. У Прончыка выступіў пот на ілбе, памакрэла сярэдзіна.

Апынуліся ў вялікім пакоі: дыван, мяккія крэслы — і шчуплы, малады

